# •АКСАМИТНЫ ЖАХ•

**Рождество Твое, Христе Боже наш,**
**возсия, мирови свет разума, в нем бо звездам служащии звездою учаху-ся Тебе кланятися, Солнцу правды, и Тебе ведети с высоты Востока. Господи, слава Тебе!**

Тропарь, глас четвертый

**Дева днесь Пресущественнаго**
**раждает, и земля Вертеп Неприступному приносит; Ангелы с пастырь-ми славословят, волсви же со звездою путешествуют; нас бо ради родися Отроча младо, превечный Бог.**

Кондак, глас третий.

## З Расством Хрыстовым!

Не ў палатах і сьвятліцах Ён нарадзіўся, а ў хляве, ў змрочнай пячоры, дзе кволае цяпельца ледзь асьвятляла сьсцяпеньне, спавіты пяшчотнымі мацярынскімі рукамі не на пуховых пярынах ляжаў маленькі Ісус, а ў драўляных яслях, дзе кампаніяй ягонай былі бычок ды восьлік. Бацькі агарнулі Яго клопатамі, жывёлы саргравалі сваім дыханьнем. Так, Хрысту не знайшлося прытулку ў доме, мейсца ў царстве душагуба Ірада, які шукаў Маладзенца каб учыніць расправу: Дзіцёныш прымусіў жорсткага ўладара дрыжэць прадказуючы прышэсьце іншага царства – Дабрыні і Любові. Але прабілася сьвятло ў густое Юдэйскае цемрадзі і адтуль запаленае, яно дасёньня саграе нашыя душы.

Першымі пастухі дасталі ўбогава вэртэпу адарваныя ад свайго статку цудам нечуваным – з'яўленьнем Анёла Гасподняга ды горняга воінства, што вясталі ім шукаці Збавіцеля й пакланіцца Яму, першымі людзі простыя і работныя прыбылі да Хрыстовага почту.

Сівых мудрых вешчуноў да Сьвятога Сямейства прывяла хвастатая таямнічая зорка, адно яна вызначала шлях сваім зыркім прыцягальным зьзяньнем; і прыйшлі вешчуны і ўпалі яны ў ногі Багародзіцы, паваліліся перад Самым Збавіцелем, радыя і шчасьлівыя што засьпелі з'яўленьне Сына Божыя. Дзяды б'юць паклоны Немаўляці ды прыносяць дары: злата, ладан, сьмірну.

Ах, якая нечуваная дабротнасьць ведаць што ты стаіш на парозе новага, нязьведанага, велічнага і вечнага. Самае найгалоўнае – не прамінуць далучыцца да гэтае дабротнасьці...

А Маці Божая, мілая Маці, яна й радуецца і смуткуе, бо бачыць ужо цярновы ўбор на чале Свайго Сына, бачыць Яго прапятага на крыжы.

Ён нарадзіўся аднойчы ў тым далёкім Віфлеемскім вэртэпе побач з бычком ды восьлікам, нарадзіўся для таго каб нараджацца зноў і зноў, з року ў рок, каб падарыць нам надзею ў гэты дзьвохтысячны раз.

"Сьвяты вечор, багаты вечор. Хрыстос нарадзіўся на вашэм двары" – ходзюць па мястэчку калядоўшчыкі, маладыя хлопцы ў кажушках несучы перад сабою маляваную зорку шасьцікутную і сьледуюць як старцы за той Віфліемскай, і поўніцца мястэчка з усіх канцоў каляднымі сьпевамі.

Зірні "пан-гаспадар", мо і ў тваім хляве гэтым сьнежным вечарам адбылося цуда? Далёкі Віфлеемскі сюжэт паўстаець у навакольлі блізкім: тураўскім, лоеўскім, гамялецкім. Галоўнае не забыцца, бо блізіцца Сьвяты час.

"У царкву ішла Богу маліцца
Сьвяты Вечор, Богу маліцца
Богу маліцца, Хрысту кланяцца... "

Пасьля Ўсяночнай выйдзем з царквы дабрыдзем дадому дахаты, радасныя і шчасьлівыя разгавеемся пасьля Філіпава поста, вып'ем свойскага вінца і зірнем у цёмнае неба, ці не бяжыць у ім таямнічая хвастатая зорка...

# З Расством Хрыстовым!

**Віншуем усіх чытачоў Аксамітнага Жаху, усіх прыхільнікаў і спачуваючых а гэтаксама і непрыяцеляў нашых, усіх родных іхніх, крэўных і бліжніх; як можам, грэшныя і неруплівыя молімся за іх і за ўсіх праваслаўных хрысьціянаў.**

Віншуем із Сьвятым нараджэньнем Хрыстовым навуковых супрацоўнікаў й гаспадарчы пэрсонал Гомельскага Абласнога Краязнаўчага Музэю, а ў прыватнасьці Ўладзімера й Тацьцяну Ліцьвінавых, Музу Мікалаеўну Агай, Ганну Кузьміч, Юрыя Глушакова, Андрэя Саладоўнікава і зычым посьпехаў у пачэснае справе адраджэньня гомельскага палацу.

Віншуем са Сьвятам навуковых супрацоўнікаў і гаспадарчых работнікаў Веткаўскага музэю народнае творчасьці, дырэктарку яго Галіну Нячаеву, сталых і аўтарытэтных аўтараў нашае газэткі: Генадзя Лапаціна, вечна маладую Ларысу Раманаву, вечна маладога Алега Чыжова.

Віншуем са Сьвятам і зычым навуковых вікторыяў на археалагічным попрышчы Алегу Анатол'евічу Макушнікаву і ягонаму роду шчаснага жыцьця.

Віншуем Юрыя і Алу Лупіненкаў і маленькага Андрэйку і жадаем здароў'я і дабрабыту, а ўсяму "Сьцягу Алега Сьвятаславіча": ваярам Лазену Ўладзіславу, Клімовічу Сяргею, Андрэю Максімейчанку жалезна-жалезнае цярплівасьці ў справе рэканструкцыі дружыннае культуры.

Віншуем сябраў Беларускай Асацыяцыі студэнтаў архітэктараў і рэдакцыі мясцовае газэты "Архітэктоніка" ў прыватнасьці Андрэя і Кірылу Асмалоўскіх.

Віншуем са Сьвятам апалягета вольнамастацкага руху Юрыя Дынкіна, што знаходзіцца ў непасрэднае блізкасьці ад Эпіцэнтра падзеяў у Сьвятой Зямлі Палестынскай і працягвае аставацца апалягетам.

Віншуем яркага прадстаўніка местачковага жывапісу Яўгена Дворачкіна, жану яго Аксану і сына Аляксея і зычым роду іхняму шчасьця і здаровейка, а самому мастаку аксамітнага творчага клімату.

Віншуем Васіля Пакаташкіна ва ўсёй ягонай настальгіі і спадзяемся, што гэта ня будзе адзіным яго пачуцьцем.

Віншуем Андрэя і Анжэлу Мельнікавых і маленькага Аліка, а віншуючы зычым ім любові і згоды, здароў'я і дабрабыту.

Віншуем славутага вучонага-энцыклапедысту Якава Пятровіча Сцівенсана са Сьвятам і выхадам манаграфіі «Лекавыя сваяцтва грэчкі» і спадзяемся што нашае супрацоўніцтва будзе працягвацца яшчэ колькі год.

Віншуем Яўгена и Тацьцяну Касьцюшкаў і маленькага Артура, ды няхай паможа ім Божа пражыцці ў дабрыні і суладьдзі і тварыці дабро іншым.

Віншуем Сяргея і Вольгу Краснабарод і ўсё іх сямейства са Сьвятам, а гэтаксама з прызначэньнем Сяргея на адказную пасаду і зычым ім здаровейка і посьпехаў у ажыцьцяўленьні творчых планаў.

Віншуем Рому Дарашэнку, чальца кампаніі вольных мастакоў, і жадаем посьпехаў у творчацьці ды вучобе.

Віншуем шчырага гамялецкага паэта Ўладзіміра Ступінскага са Сьвятам із нецярплівасьцю чакаем новых твораў, таму як спадзяемся, што натхненьня ніколі яго не пакіне.

Віншуем Бэлу Сасноўскую са Сьвятам і жадаем здароў'я, дабрыні й ладу. Ї няхай жа увесь боль твой застанецца ў мінулым.

Віншуем аднаго з яркіх прадстаўнікоў вольнамастацкага жывапісу Славу Кацуру, супрацоўніка нашага аксамітнага выданьня, і жану яго Алену.

Віншуем усе вольнамастацкае грамадства Менска, а ў прыватнасьці паэтаў Рамана Раманава і Міхала Варажцова. Дай жа ім Божа здаровейка!

Віншуем славутага мастака Віталя Чарнабрысава са Сьвятам і спадзяемся, што з Бож'яй дапамогай рэалізуем усе нашыя сумесныя пражэкты.

Віншуем нашых шчырых сябраў, піонэраў сусьветнага вольнамастацкага руху, творчую суполку міцькоў, і пэрсанальна Міцю Шагіна, Аляксандра Фларэнскага, Ўладзімера Шынкарова, Міхала Сапегу і усіх піцерскіх братков-сестрёнок са Сьвятым Нараджэньнем Хрыстовым.

Віншуем усе кола беліцкіх дасьледчыкаў са Сьвятам і спадзяемся, што новы год прынясе новыя ашаламляючыя адкрыцьці.

Віншуем «Талаку» са Сьвятым Нараджэньнем і жадаем усім яе сябрам духоўнага ды цялеснага здароў'я, хрысьціянскае любові ды згоды, а асабліва старшыню Яўгену Малікаву, Дзянісу Міхасёву і Насьце, Ларысе Шчыраковай, Натальлі Маркевіч, Андрэю Пуканаву, Дыяне Ягоравай, Натальлі Лобан, Юліі Сальнікавай дальнейшых плённых посьпехаў у справе адраджэньня мінулага слаўнае нашае старонкі.

«Аксамітны Жах» № 9. Набраны і змакетаваны Алесем і Ірынаю з Гомеля. У нумары выкарыстаны віньеткі доктара Францішка Скарыны з Полацку. Папера афсэтная. Друк трафарэтны. Наклад ас. 